Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

6 - 12 ЛЮТАГА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ

№ 6 (146)

# Уключы таксометр, шэф!

## З 1 красавіка ўсе таксі павінны будуць мець таксометры.

*А ў другое пяўгоддзе таксісты мусяць уехаць толькі з электроннымі лічыльнікамі. Такім чынам мяркуецца навесці парадак у камерцыйным сектары пасажырскіх перавозак.*



Прыватнікі да рашэння Дзяржаўнага падатковага камітэта і Міністэрства транспарту і камунікацый ставяцца асцярожна - толькі на адным з таксапаркаў Мінска абкатваюцца электронныя таксометры, у якіх багата недапрацовак. Напрыклад, рэагуюць на сігналы радыётэлефонаў - даюць збой. "Электроніку" завозяць з Польшчы і прадаюць па $250. Навапалацкія танней - па $220. Але вадзіцелі лічаць іх менш надзейнымі.

Вытворца, Навапалацкі завод "Вымяральнік", у сталіцы прадстаўлены Цэнтрам тэхабслугоўвання таксометраў. Жыхарам Гродзеншчыны можна звярнуцца да партнёраў у гандлёва-тэхнічны цэнтр "Мікс", што ў абласным цэнтры. Гэтыя ўстановы разглядаюць калектыўныя, індывідуальныя заяўкі па набыцці, устаноўцы і абслугоўванні. Дырэктар Мінскага цэнтра **Віталь Кавалеўскі** электронныя лічыльнікі сучаснымі і больш зручнымі. Механічныя ж параўноўвае з механічным касавым апаратам "Ака", які заводзіцца ўручную і захаваўся ў сельмагах. На недавер да прадукцыі "Вымяральніка" адзначае: *Сёння 250 электронных таксометраў ездзяць па Мінску і працуюць па 16-18 гадзін (дзяржаўнае таксі). Выпрабоўваюцца і падганяюцца пад нашы разбітыя дарогі.*

Ці будуць нававядзенні спрыяць парадку ў гаспадарцы прыватных таксі? Нашы гарады невялікія. Існуюць цвёрдыя расцэнкі падарожжа па іх. Калі чалавеку хутка трэба некуды паспець, ці будзе ён настойваць уключыць таксометр? Хутчэй за ўсё, згодзіцца адразу на пэўную суму. Таму, хутчэй за ўсё, "электронныя" таксі проста ўзнімуць расцэнкі, каб апраўдаць страты.

**Васіль САВІЦКІ.**

***Даведка.** Сёння ў Маладзечне прыватнікі бяруць за адну ездку ў горадзе ў незалежнасці ад адлегласці 30 тысяч. Калі побач няма пільнага вока калег, цана часам спускаецца. Увечары тарыф павышаецца да 40 тысяч. Ночку цэны па дамоўленасці. Прыблізна разы ў два вышэй, чым днём. Што да дзяржаўных таксі, то тарыф за 1 км роўны 8000 руб. Што ва ўмовах Маладзечна можа быць блізкім да цэнаў прыватнікаў.*

Крымінал

# Ад "зоны" да "зоны" - 10 сутак

***АСТРАВЕЦ.** Аронас Найжміс (прозвішча зменена) "адкінуўся", кажучы турэмнай мовай, 15 студзеня. Яго шлях з Оршы на Літву ляжаў праз Астравецкі раён, дзе былі і жылі знаёмыя з агульнымі інтарэсамі.*

Завітаў да аднаго з іх у вёску Ліпнішкі. Пасля бурнай начы паліцыў, напэўна, што з пустымі рукамі вяртацца дадому, па меншай меры, неяк сорамна. Таму зранку пакрочыў "на справу" у суседнюю вёску.

У дом, дзе жыла Тарэза Сцефановіч, завітаў пад выглядам электрыка. Праверыў электралічыльнік і прыняўся за сваю задуму. Пачаў збіваць жанчыну рукамі, а затым у ход пусціў цагліну. Некалькі ўдараў па галаве - і ахвяра страціла прытомнасць. Для надзейнасці звязаў і зацягнуў у падсобку.

Выкраў адзенне, залатыя вырабы і знік. Жанчына праз пэўны час апрытомнела, выбралася з падсобкі. Выклікалі міліцыю.

Аператыўнай групе ў складзе начальніка крымінальнага вышуку падпалкоўніка **Аўтушэнкі**, маёра **Кірпа**, капітана **Балтрусевіча**, маёра **Макея**, лейтэнанта **Рынкевіча** і сяржантаў **Багушэвіча** і **Бізукойця** спатрэбілася для выяўлення і затрымання злачынцы суткі. Ён накіроўваўся ў бок Ашмянаў, калі разам са скрадзеным у сумках, аператыўнікі надзелі наручнікі. Што і казаць, ад "зоны" да "зоны" прайшло 10 сутак.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Будзь здароў!



ФОТА IREX PROMEDIA

Грып пакуль не наступае. Урачы-тэрапеўты працуюць у звычайным рытме - па 30 хворых за змену. Хваробу стрымліваюць маразы. Але як любы іншы вірус, грып трэба папярэджваць. Самая простая парада - раніцай, перад тым як выйсці з дома, пакладзіце ў нос аксалінавую мазь. Яна не дапусціць пранікнення інфекцыі ў арганізм. А кожны вечар ужывайце напой "Смерць зялёнай" (так кажуць у народзе). Паўлімона падзяліце на кавалачкі. Дакладзіце 5 зубчыкаў часнаку. Усё заліце кіпенем. Дайце настаяцца. Ужывайце па сталовай лыжцы кожны вечар. І будзьце здаровыя!

Штотыднёвік

ПЮТЫ 6-12

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| Даслаць праз "Рэгіянальную" валянцінку для блізкага мне чалавека. Дзень закаханых - 14 лютага | 53841 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |

Навіны

# Інспектар, пачакай

*Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі прыняў рашэнне аб прыпыненні дэкларавання фізічнымі асобамі сукупнага гадавога даходу.*

МІНСК. Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі накіраваў ва ўсе падатковыя інспекцыі рэспублікі тлумачэнне "Аб прыпыненні дэкларавання фізічнымі асобамі, у тым ліку прадпрымальнікамі, атрыманага імі сукупнага гадавога даходу і перазліку, зыходзячы з яго, падаходнага падатку". Падатковы камітэт паведамляе, што прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прапанаваў да прыняцця ім канчатковага рашэння прыпыніць якую-небудзь дзейнасць падатковых органаў у частцы дэкларавання грамадзянамі даходаў. З улікам гэтага падатковы камітэт прапануе: прыпыніць да атрымання асобых указанняў запатрабаванне ў фізічных асобаў, у тым ліку прадпрымальнікаў, дэкларацый аб сукупным гадавым даходзе; асобам, якія прадставілі дэкларацыю да і пасля атрымання гэтага тлумачэння, пераразлік падаходнага падатку прыпыніць; фізічным асобам, якім на падставе прадстаўленых дэкларацый ужо былі зроблены пераразлік, што пацягнуў за сабой неабходнасць даплаты або вяртання з бюджэту раней утрыманай сумы падатку, аператыўна паведаміць пра часовае прыпыненне патрабаванняў, прад'яўленых ім падатковымі органамі.

**БелаПАН.**

# Рабочыя вяртаюцца на завод

***МАЛАДЗЕЧНА.** Станкабудаўнічы завод летась спрацаваў няўдала. Пры мяркуемым тэмпе росту 134,8 працэнта атрымаў 87,4. І тым не менш, на прадпрыемства вяртаюцца рабочыя, якія калісьці яго пакінулі ў пошуках лепшых заробкаў. На станказаводзе гавораць пра хуткае паляпшэнне сітуацыі.*

Са слоў старшыні прафкома **Ірыны Альховік**, не ўсе сёння атрымалі зарплату за снежань. Ды і самой прафсаюзнай арганізацыі завод завінаваціўся 80 мільёнаў. Але пазітыўныя крокі, перш за ўсё, звязваюць з новым дырэктарам. Асноўныя ж напрамкі свайей работы Ірына Эдуардаўна (яе абралі 2 месяцы таму) бачыць у забеспячэнні аховы працы і кантраляванні дакладнасці і своечасовай выдачы зарплаты.

**Аддзел інфармацыі.**

# У лесе знайшлі халадзільнік

***СМАРГОНЬ.** 12,5 мільёнаў рублёў (кошт добрага халадзільніка) пералічыла дзяржаўная экалагічная інспекцыя за парушэнні ў лясной гаспадарцы.*

Апошнім часам пачасціліся выпадкі самавольнага захопу грамадзянамі зямлі пад вырошчванне сельгаскультур, стварэнне сметнікаў, вырубкі лесу.

**Тарэса КУМІШЧА.**

# Карова памяняе стойла

***ВІЛЕЙКА.** 8 тон сена ўзнёсліся полымем у пенсіянеркі, што жыве ў заречанскай частцы Вілейкі— Стаўках (Малюнах). Вогненны слуп бачылі нават у Маладзечне.*

У студзені ў горадзе і раёне адбылося ўсяго 4 пажары (леташнім студзенем - 18) і абышлося без ахвяраў. Студзень мінулага года адабраў у пажарах 3 жыцці.

**Марына ТАЧЫЦКАЯ.**



# Калі органы падводзяць

***АСТРАВЕЦ.** Па-добраму можна пазайздросціць рабоце аператыўнікаў. Усяго за дзесяць хвілін пасля таго, як паступіла паведамленне пра злачынства, яны затрымалі злачынцу.*

Раней неадназова судзімы Н. у лесе ля Астраўца збіў непаўналетнюю дзяўчыну, парваў адзенне, пограбаваў грошы. Меў намер згвалціць. І толькі давесці да канца справу яму не дазволіў ведомы орган, які падвёў гвалтаўніка. Злачынца затрыманы, вядзецца следства.

**Аддзел інфармацыі.**

Моладзь—зелена

# Не супраць і чарку перакуліць

***АСТРАВЕЦ.** П'янству, хуліганству, ненаведванню ўрокаў непаўналетнімі было прысвечана апошняе пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх.*

На "разборкі" выклікалася больш за 10 правінаваціўшыхся юнакоў, якія вымушаны былі патлумачыць свае паводзіны. Давялося разам з імі пачырванець і іх бацькам, бо члены камісіі пацікавіліся ў іх, чаму яны ўхіляюцца ад абавязкаў па выхаванні сваіх чадаў.

Адны бацькі заплацяць штраф, а іншыя "шчаслівыя" адкараскаліся папярэджаннем. Пашанцавала?

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# "Зялёным" даюць шанц

***ВІЛЕЙКА.** "Зялёнымі" называюць непаўналетніх злодзеяў, навучэнцаў ПТВ. Менавіта яны, будучыя вадзіцелі, слесары, у асноўным, і даюць работу інспекцыі па справах непаўналетніх. Летась 7 падлеткаў накіраваныя ў выхаваўча-працоўныя калоніі — "зону".*

Колькасць невялікая, калі ўлічваць 62 выпадкі зарэгістраваных злачынстваў. Падлеткаў, у асноўным, "вяжуць" на крадзяжах, самым распаўсюджаным відзе злачынстваў. Прынцып - выпіў, украў, у турму - не зусім адпавядае рэчаіснасці. Падлеткам даюць шанц выправіцца. Выхаваўчая работа інспекцыі скіравана на папярэджванне. Як вынік, ідзе скарачэнне злачыннасці, правапарушэнняў. Вілейская ІСН -- лепшая ў вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

Экалогія

# Вакол школы забуяе батанічны сад

***МАЛАДЗЕЧНА. Вучні мясцовай СШ №3 паглыблена вывучаюць французскую мову, шостай - англійскую. Ёсць і школа мастацтваў. Летась рашэннем выканкома школе №12 быў нададзены статус навучальнай установы з экалагічным ухілам.***

Нягледзячы на тое, што экалагічная накіраванасць яшчэ не вельмі назіраецца, зробленыя ўжо першыя крокі ў пэўным напрамку. Планамі на блізкую і далёкую будучыню і тым, што робіцца ў школе №12 цяпер, падзялілася намеснік дырэктара па экалогіі **Юлія Мякшыла.** Вось аб чым я даведалася.

Перш за ўсё, у школе створаны жывы куток, дзе можна ўбачыць усялякую жыўнасць на розны густ. За гэтымі прадстаўнікамі флоры дагледаюць вучні аднаго з восьмых класаў. Ужо заканчваецца афармленне дакументацыі на стварэнне музея прыроды (дарэчы, ужо падпісаны эскіз), які плануецца адкрыць у школе да канца гэтага года. А з наступнага года ёсць задумка ўвесці два новыя прадметы, якія вельмі добра будуць адлюстроўваць сутнасць школы: "Спадчына" і "Асновы экалогіі і ахова прыроды".

Крыху пазней плануецца зрабіць комплексную школу. Будзе створаны клас прыродазнаўчых навук, выкладаць у якім адміністрацыя школы запросіць прафесараў з геаграфічнага факультэта БДУ. Дарэчы, гэта падтрымлівае сам дэкан геафака.

Ну, а калі вакол будынка школы пачне буяць і цвісці батанічны сад, які будуць афармляць спецыялісты-дызайнеры з тэхналагічнага інстытута, я лічу, што школа №12 зможа мець больш жадаючых вучыцца ў ёй, чымсьці якая-небудзь іншая.

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*



"ТЫ ЗНАЕШ, ПРА ШТО ГАВОРЫЦЬ ГЭТА РЫБКА!" ФОТА ВЯЧАСЛАВА АКІМАВА.

## БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады ):

| Прадукт | 28.01.98 | 4.02.98 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 73 тыс. | 72 тыс. |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 240,5 т. | 240,5 т. |
| Сасіскі свіныя, 1 кг | 74,8 тыс. | адсутн. |
| Селядзец салёны, 1 кг | 39,2 тыс. | 39,5 тыс. |
| Рыс, 1 кг | 24 тыс. | 21 тыс. |
| Цукар, 1 кг | 22,5 тыс. | 22,5 тыс. |
| Грэчка, 1 кг | 26 тыс. | 26 тыс. |
| Алей, бутэлька 1 л | 51,5 тыс. | 52 тыс. |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 27,9 тыс. | 23,3 тыс. |
| Маянэз, 250 г | 14,5 тыс. | 14 тыс. |
| Кава "Пеле", 100 г. | 57 тыс. | 62 тыс. |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 20,5 тыс. | 21 тыс. |
| Мандарыны, 1 кг | 66,8 тыс. | 66 тыс. |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана, 1 л | 35 тыс. | 30 тыс. |
| Масла, 1 кг | 70 тыс. | 70 тыс. |
| Тварог, 1 кг | 35 тыс. | 35 тыс. |
| Малако, 1 л | 8 тыс. | 8 тыс. |
| Бульба, вядро | 60 тыс. | 70 тыс. |

## Калі час - не грошы

Дзве "кіламетровыя" чаргі сталі адметнай рысай апошняй серады. Як і раней, са сваімі "паліцэйскімі" і дэвізам "больш двух ... у адны рукі не даваць". Першая чарга выцягнулася да машыны, з якой прадавалі яйкі (Д-II за 23,3 тыс. рублёў, Д-I - за 25 тыс.). Другая - да прылаўка з вялікай колькасцю свіных субпрадуктаў. Вось цэны за кілаграм на некаторыя падобныя прысмакі: сэрца - **59800** рублёў, ныркі - **29200** руб., рулькі - **28500** руб., язык - **109800** руб. Ляжалі там і курыныя лапкі - аматарам на халадзец.

Жанчыны, якія не пабаяліся памерзнуць у чарзе, змаглі ўвечары парадаваць свае сем'і смачнай вячэрай!

*Аддзел інфармацыі.*

Лёсы

# Яма

***МАЛАДЗЕЧНА. Сяргей і Саша Гудовічы жывуць пад адным дахам, абодва не ходзяць. 29-гадовы Сяргей 7 год "у яме" пасля аўтааварыі. Яго 4-гадовы пляменнік такі ад нараджэння. - Ты мне сябар ці ануча? - жартуючы, пытаецца старэйшы. - Сябар! - сур'ёзна адказвае Саша. І не толькі па няшчасці.***



ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА

У той год Сяргей двойчы трапляў у рэанімацыю. Спачатку на ўласны дзень нараджэння ў сваім двары атрымаў нажом у жывот. Пакуль чакалі хуткую дапамогу, сястра Марына прымусіла праглынуць некалькі кропляў валяр'янкі. Лекі не пайшлі, закашляўся - і ледзь паспеў падхапіць свае кішкі. Цяпер швы на жываце нагадваюць аб той трагедыі.

Праз паўгода на Замкавай уляцеў з матацыклам у яму, хаця 10 год хадзіў па гэтай вуліцы ў школу і ведаў на ёй кожны каменьчык. У тую раніцу ехаў да дзяўчыны, каб падаць з ёю заяву на рэгістрацыю шлюбу.

- Ты нібы на касманаўта экзамен здаваў, - успамінае сусед Лёва, - у паветры ляцеў, як Ікар. Праўда, без крылаў.

Тым, хто ў росквіце гадоў страціў магчымасць хадзіць, Сяргей раіць як мага больш быць на людзях. Сам ён вядзе звычайнае жыццё: часцяком прыходзяць сябры, на калясцы ездзіць па горадзе, самастойна наведвае Мінск. Прыбірае ў доме. Падзарабляе фатаграфаваннем - тую злашчасную "Яву" прадаў і купіў "Паларoід". Салдат (вайсковая часць недалёка) вельмі задавальняе хуткая фатаграфія. На заробленае набыў каляровы тэлевізар, відэамагнітафон.

Цяпер Сяргей хоча стварыць сям'ю (дзяўчына жыве на адной вуліцы), узяць у арэнду ларок.

Праўда, у старым драўляным доме цесна - шасцёра жыльцоў. Ды і з бытавымі ўмовамі цяжкавата. Гудовіч спадзяецца, што ўлады дапамогуць. Пару метраў з гарачаю вадой і туалетам - усё, што яму трэба.

Яшчэ Сяргей любіць і ўмее стрыгчы. Цікавіцца даведачнай літаратурай, асабліва медыцынскай. І хоча, як і да аварыі, стаць мільянерам.

Сям'я жыве небагата. Самы паважаны чалавек - Надзея Іванаўна, маці Сяргея, працуе прыбіральшчыцай у музвучылішчы. Бацька памёр. Родны брат Міхаіл - старшакласнік.

Раней Гудовіч займаўся штангай. 30 разоў прысядаў з васьмюдзесяццю кілаграмамі на плячах. Сёння на ягоных плячах значна большая вага. Ён не даходзіць да адчаю ад безвыходнасці. Наадварот, прапануе тэлефанаваць яму за маральнай падтрымкай, па[illegible]ай. Тэлефон Гудовічаў 76[illegible]00.

*Васіль САВІЦКІ.*

Міласэрнасць

## Цяпло ад "Агеньчыка"

***СМАРГОНЬ. 13 установ і арганізацый на працягу паўгода матэрыяльна падтрымалі грамадскую арганізацыю "Агеньчык надзеі".***

80 сем'яў, дзе выхоўваюцца дзеці-інваліды, аб'ядналіся, каб разам праводзіць пазакватэрныя мерапрыемствы - дапамагчы дзецям знайсці сяброў, адчуць сябе патрэбнымі.

*Тарэса КУМІШЧА.*

Акцыі

## Грошы ў банк.

### Адтуль - падарунак

***АСТРАВЕЦ. Напачатку сакавіка ў аддзяленні Белаграпрамбанка адбудзецца розыгрыш прызоў.***

Трэба меркаваць, новаўвядзенне будзе карысным не толькі для банка, але і для кліентаў. Першы ў гэтым выпадку атрымае нямала дадатковых грошай, ну, а кліенты - не толькі працэнты па ўкладах, але і падарункі. Якія? Гэта трымаецца ў сакрэце, але кажуць, што даволі буйныя.

Стаць жа ўдзельнікам своеасаблівай бясплатнай рэчавай латарэі, па словах кіраўніка банка **Аляксандра Орсіка,** проста. Пакладзі крыху больш за адзін мільён рублёў на тэрмін не менш, чым 35 дзён, - і ты ўдзельнік, а можа, і ўладальнік прыза.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Гандляры не згодныя

***АСТРАВЕЦ. Услед за хваляваннямі на буйных рынках краіны днямі меўся адбыцца пікет і ў Астраўцы. Прычыны падобнай забастоўкі - нязгода з новаўвядзеннямі ў падатковай палітыцы, бо, на думку некаторых гандляроў, яны вымушаны будуць плаціць фактычна двайны падатак.***

Але забастоўкі не адбылося. Практычна большая частка ўжо запоўніла дэкларацыі і заплаціла падаткі. А па-другое, палічылі, што ад забастоўкі толку не будзе аніякага, бо яна нічога не зменіць. Тым не менш, у Астраўцы прадпрымальнікі з гэтым рашэннем дзяржавы не згодныя.

*Аддзел інфармацыі.*

## А.Лукашэнка адрэагаваў на сітуацыю

***МІНСК. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў прадстаўнікам Камітэта дзяржаўнага кантролю, урада і эканамічнага аддзела Савета бяспекі падрыхтаваць інфармацыю аб сітуацыі, што ўзнікла з прадпрымальнікамі і дэкараваннем даходаў.***

Прэзідэнт, па яго ж словах, загадаў "спыніць усялякую цяганіну з дэкараваннем і збіраннем падаткаў", пакуль ён асабіста не прыме наконт гэтага канкрэтнае рашэнне. Сітуацыю, якая склалася, А.Лукашэнка назваў "галавацяпствам ці шарлатанствам з боку асобных дзяржаўных служачых, можа быць, і падатковай інспекцыі". Ён падкрэсліў, што калі патрабаванні прадпрымальнікаў "абсалютна справядлівыя і абгрунтаваныя", то яны будуць падтрыманыя. "Яны такія ж людзі для мяне, 120 тысяч чалавек, такія ж выбаршчыкі, як і ўсе астатнія. І потым, што гэта за дзяржава, калі такім бындыцкім чынам пачынаюць абыходзіцца з гэтымі людзьмі", — сказаў прэзідэнт.

*Ягор ЗВОННІКАЎ,*

Рэха нашых публікацый

# Ускладанне кветак ці мітынг?

***У рэдакцыю "РГ" прынёс сваю заяву другі сакратар Маладзечанскага камітэта КПБ Анатоль Карпенка. Паколькі яна закранае работу нашай газеты, мы змяшчаем тэкст заявы.***

У "РГ" №46 была апублікаваная нататка члена БНФ пана А.Цадко аб мерапрыемстве на плошчы Леніна, праведзенага Маладзечанскай партарганізацыяй КПБ, прысвечаным 80-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі-- ускладанню кветак да помніка В.І.Леніну, дзе згадвалася маё імя. У нататцы, акрамя адкрытай паталагічнай нянавісці, дапушчаны шэраг праднамераных скажэнняў.

Мерапрыемства па ўскладанню кветак да падножжа помніка п.Цадко назваў мітынгам, што прынцыпова няправільна. У самым пачатку было аб'яўлена, што партарганізацыя не праводзіць мітынг, бо напярэдадні ў горадзе прайшоў урачысты сход, прысвечаны гэтай знамянальнай даце, а мы сабраліся дзеля таго, каб ушанаваць памяць вялікага правадыра рэвалюцыі праз ускладанне кветак да яго помніка.

Колькасць людзей, што сабралася, п.Цадко вызначыў у 70 чалавек, у той час калі сабралася парадку 200 чалавек.

У п.Цадко не знайшлося ні радка, каб паведаміць, што напярэдадні сумесна з гарадскімі ўладамі партарганізацыя, гарадская арганізацыя ветэранаў працы і Узброеных Сіл, гарадская арганізацыя союза афіцэраў правялі ўрачысты сход, прысвечаны гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, і што ў зале Дома культуры чыгуначнікаў не засталося ніводнага свабоднага месца.

Відавочна, нататка Цадко мела на мэце не інфармаванне, а дэзінфармаванне чытачоў "РГ" аб падзеі, якую асвятляў ён.

Пан Цадко паведамляе, што я заклікаў тых, хто сабраўся, падтрымаць Прэзідэнта РБ А.Р.Лукашэнку. 34 з'езд КПБ, які прайшоў у сакавіку, афіцыйна заявіў аб сваёй падтрымцы ўсіх ініцыятыў Прэзідэнта ва ўнутранай і знешняй палітыцы, якія вядуць да паляпшэння жыцця народа, недапушчэнню далейшага развалу эканомікі РБ пад выглядам "рэформ" і "прыватызацыі". 34 з'езд поўнасцю падтрымаў намаганні Прэзідэнта па стварэнню міждзяржаўнага саюза Расіі і Беларусі і напаўнення канкрэтным зместам заключанага дагавора. 34 з'езд асудзіў паклёпніцкую кампанію, развязаную ў "незалежных" СМІ супраць Прэзідэнта рэакцыйнымі сіламі.

Акрамя таго, сюжэт нататкі, уключаючы і фатаграфію помніка Леніна, п.Цадко запазычыў з газеты "Свабода" №123.

Хачу самакрытычна заўважыць, што з боку многіх тых, хто сабраўся на ўскладанне кветак гараджан, выказвалася незадаволенасць кіраўніцтву партарганізацыі з прычыны таго, што не быў арганізаваны мітынг і не зроблена аб'яў па горадзе з запрашэннем гараджан на гэта мерапрыемства.

*Другі сакратар гаркома Маладзечанскай партарганізацыі КПБ, дэлегат 34 з'езда КПБ*

**Паважаны Анатоль Пятровіч!** На наш погляд ваша рэакцыя абсалютна не адэкватная публікацыі. Пра што мы з вамі гутарылі некалькі раз. Але калі вы хочаце, каб вашу думку пачулі іншыя, прыслухайцеся і да нашай. Любое ўскладанне кветак, дзе людзі абменьваюцца сваімі думкамі і поглядамі можна назваць мітынгам. Тым больш што гэта слова папросту азначае сход. Вырашылі ж праваахоўныя органы лічыць мітынгам ускладанне кветак да помніка змагароў за вольную Беларусь у свой час. Больш важны змест мерапрыемства, а не форма. Вы ж называеце Цэнтральную плошчу плошчай імя Леніна. Для вас яна застаецца плошчай Леніна. Ніхто ў камуністаў гэтай назвы адбіраць і не думае. Проста значная частка народа жыве ўжо ў іншым вымярэнні часу.

Абвінавачваць нашага аўтара ў тым, што ён ні радком не выказаўся аб урачыстым сходзе проста нелагічна. Ён пісаў пра падзею на Цэнтральнай плошчы і толькі. Лічу, што абвінавачванне Цадко ў дэзінфармаванні-- гэта не факт, а проста ваша меркаванне. Маё меркаванне з вашым не супадаюць.

Што да запазычанасці сюжэта, то жыццё будуецца на сюжэтах, якія паўтараюцца ад часоў антычнасці. Вы палічылі плагіятам тое, што здымак помніка Леніну зняты са спіны, як гэта зроблена было ў "Свабодзе". У такім разе плагіятам можна лічыць абсалютную большасць здымкаў помніку Леніну-- зняты ў фас.

Прадбачачы абвінавачванні ў тым, што матэрыял надрукаваны дробнымі літарамі, скажу-- хочацца друкаваць у газеце штосьці больш цікавае, чым каляпалітычныя спрэчкі.

*З павагай Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

